

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

1993 ЧЭРВЕНЬ 3 ЧАЦВЕР

№ 102 (537)

Цана 5 рублёў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ БЕЛАПАН, РІД, БЕЛІНФАРМ І ЎЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ»*

### «КРЫША НАД ГОЛОВОЙ ПОД КРЫШЕЙ НАЦБАНКА»

**СОВЕТ МИНИСТРОВ РБ и Национальный банк Беларуси приняли постановление «О дополнительном направлении средств на кредитование индивидуального и кооперативного жилищного строительства».**

**Правительство и Национальный банк решили направить в нынешнем году на кредитование индивидуального и кооперативного жилищного строительства дополнительно 15 млрд. рублей (к 30 млрд., выделенным ранее). К тому же решено изменить некоторые условия кредитования. Например, размер льготного кредита уже может составлять не 90, а 95 процентов стоимости строительства, выплата годовых за пользование ссудой — 10 процентов (вместо 5), ЖСК может начинать строительство после внесения в банк собственных средств в размере 10 процентов (а не 5, как раньше) от сметной стоимости строительства до получения банковского кредита.**

### У СУД—ЗА ІСЦІНАЙ

ТАЦЦЯНА ЛАЗОЎСКАЯ.

ЦІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА заключэнне Пракуратуры Рэспублікі Беларусь аб тым, што Беларускае згуртаванне вайскоўцаў — арганізацыя палітычная, юрыдычным дакументам? Ці можа яно быць падставай для звальнення Старшыні БЗВ, падпалкоўніка Мікалая Статкевіча з фармулёўкай: за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра? З такім запытам звярнуліся ў Пракуратуру Беларусі сябры БЗВ.

За подпісам першага намесніка Генеральнага пракурора Кандрацьева, які, дарэчы, зацвердзіў папярэдняе заключэнне, атрыманы адказ: БЗВ — усё ж палітычная арганізацыя, але гэтая акалічнасць не можа стаць прычынай для звальнення.

У паўторным запыце ў вышэйадзначаны орган члены БЗВ паставілі пытанне больш канкрэтна: растлумачыць, што гэта за новы акт пракурорскага нагляду, як заключэнне, а таксама згодна з якім артыкулам «Закона аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь» ён падрыхтаваны і ці можа ён змяніць юрыдычны статут БЗВ.

Акрамя таго, Мікалай Статкевіч звярнуўся ў народны суд Цэнтральнага раёна сталіцы, на тэрыторыі якога знаходзіцца Міністэрства абароны, з просьбай разгледзець законнасць ганебнай фармулёўкі, прычыны звальнення і правамоцнасць самога загаду аб звальненні.

### ☐ В ИСПОЛКОМЕ КОНФЕДЕРАЦИИ ТРУДА БЕЛАРУСИ

### ЗОНА УМОЛЧАНИЯ

Соб.инф. «ДВ».

**ПОД ТАКИМ грифом Конфедерация начала регулярный выпуск листовок о своей деятельности. В настоящее время профсоюзом КТБ разработан и распространяется по республике «Проект по восстановлению гражданской дееспособности». Этот документ, как сказано в его преамбуле, не привязан к интересам конкретных социальных групп, но существенно затрагивает эти интересы. Гражданин, обладающий естественными правами, независимо от его расы, национальности, происхождения, рода занятий, идейных и религиозных особенностей — исходный и вместе с тем центральный субъект данного проекта. При описании документа обращается внимание на его необычность. И прежде всего тем, что в проекте идет речь о том, как изменяются отношения граждан в идейно-правовом пространстве, которое сохраняется между коррумпированным государством и пассивным обывателем.**

**«Что заставило группу собственников в Советском Союзе переходить от государственной к частной форме реализации своих прав? — задается вопросом автор проекта, председатель исполкома КТБ Михаил Соболь. — Очевидно, «теневое» использование этих прав государственной номенклатурой превысило допустимые пределы. Партийная группа собственников осуществляет РАЗГОСУДАРСТВЛЕНИЕ СВОЕЙ СОБСТВЕННОСТИ под видом ЕЕ ПРИВАТИЗАЦИИ И ДЕПАРТИЗАЦИИ ГОСУДАРСТВА. Такой процесс зеркально отображает те события, которые происходили в 1917–1921 годах, после захвата большевиками государственных (державных) функций. Именно тогда партийная группа узурпировала права собственника путем ОГОСУДАРСТВЛЕНИЯ ЧУЖОЙ СОБСТВЕННОСТИ — под видом ЕЕ НАЦИОНАЛИЗАЦИИ В ПОЛЬЗУ ПАРТИЙНОГО ГОСУДАРСТВА».**

### ☐ КОРАТКА

*НА ЧАРГОВЫМ пасяджэнні аргкамітэта З'езда беларусаў свету абмяркоўвалася пытанне аб вырабах сувеніраў з сімволікай гэтага форуму. Па звестках, атрыманых карэспандэнтам БелаПАН ад сябра арганізацыйнага камітэта Ганны Сурмач, плануецца выраб шкляных і пляцёных з саломкі сувеніраў, шкатулак і пласцікавых пакетаў на сувенірных фабрыках рэспублікі, у тым ліку на шклозаводзе «Нёман», што ў пасёлку Бярозаўка на Лідчыне.*

*Ішла размова таксама пра будучае святкаванне Купалля на Стаўбцоўшчыне ў коласавых мясцінах і ў Баркулабаве (Быхаўскі раён) з удзелам дэлегатаў першага З'езду беларусаў свету.*

* * *

**ПРАДСТАЎНІЦТВА ААН у Рэспубліцы Беларусь пачало выданне штомесячнага «Бюлетэня ААН», прызначанага для ўрадавых структур, дыпламатычных місій, міжнародных і грамадскіх арганізацый. Тыраж першага нумара аддрукаваны на рускай і англійскай мовах і змяшчае інфармацыю аб дзейнасці кіруючых органаў ААН.**

### Нет транзиту наркотиков на белорусской земле! Итальянцы нам помогут

Виталий ЧУЯСОВ.

НА ДНЯХ из Рима в Минск возвратилась делегация МВД республики, которая приняла там участие в конференции по проблемам наркотиков «Телетрак».

КАК сообщил корреспонденту РИДа заместитель начальника штаба МВД Алексей Борисович Кавецкий, приглашение белорусской делегации на этот форум не случайно. Дело в том, что львиная доля (около 80 процентов) героина, поступающая в Западную Европу, проходит по так называемому Балканскому пути, одним из «перевалов» которого и является наша республика. О плодотворности этой конференции говорит факт заключения двусторонних соглашений между МВД Беларуси и Италии.

### САХАР, КАК И ПРОЕЗД, ДОРОЖАЕТ ЕЖЕМЕСЯЧНО

ВЧЕРА мы дали разъяснение, почему в магазинах не продают сахар. А через несколько часов после выхода газеты стало известно, что цена утверждена и с сегодняшнего дня началась продажа сахара. В этом месяце вы сможете купить его за 390 рублей.

**А вот с животным маслом пока ничего не ясно. «Верхи» не решат, поднимать на него цену или нет, и потому торговля и покупатели вынуждены ожидать.**

### АБАРАНІ СЯБЕ САМ

ТАЦЦЯНА ЛАЗОЎСКАЯ.

У НАШ складаны час яднаюцца розныя сацыяльныя катэгорыі і групы людзей: ствараюць структуры, каб разам процістаяць прававаму бязмежжу, эканамічнаму бязладдзю, манаполіі дзяржаўных структур на ўсе сферы нашага жыцця. Не выключэнне і журналісты.

Днямі адбыўся ўстаноўчы сход Асацыяцыі свабодных сродкаў масавай інфармацыі.

Удзельнікі сходу абмеркавалі праект статута, унеслі ў яго дапаўненні і змяненні, абралі кіруючыя органы і раду. Стварэнне асацыяцыі прадыктавана сітуацыяй, якая склалася вакол СМІ, уціскам з боку дзяржаўных структур. Не сакрэт, што большасць выданняў манапалізавана Саветам Міністраў, пазбаўлена магчымасці вольна выказваць свае погляды.

Заканамернай з'явай сталі судовыя працэсы над журналістамі — зараз, пэўна, няма ніводнага рэдакцыйнага калектыву, не ўцягнутага ў судовыя разборкі. Заканчваюцца яны звычайна не на карысць не абароненых законамі прадстаўнікоў «чацвёртай» улады. А Саюз журналістаў, які, здавалася б, павінен стаяць на варце інтарэсаў сваіх членаў, ператварыўся ў гаспадарчы орган, заняты дзяльбой дачных участкаў, пуцёвак.

Арганізацыя ў абарону СМІ магла быць створана значна раней — такую магчымасць прадастаўляла Беларуская ліга правоў чалавека. Але пакуль не дзёўбне смажаны певень, наш брат журналіст не перахрысціцца. Што ж, як кажуць, лепш пазней, чым ніколі.

### ПАГОНЫ І ЧЛЕНСТВА Ў БХДЗ НЕСУМЯШЧАЛЬНЫЯ

Алесь АНДРОСАЎ.

Управа Беларускай Хрысціянска-дэмакратычнай Злучнасці прыняла асноўныя палажэнні ўнутраных і фінансавых правілаў, якія рэгламентуюць абавязкі сяброў БХДЗ на выбарчых пасадах і пытанні, звязаныя з фінансаваннем партыі. У прыватнасці, унутраныя правілы прадугледжваюць, што сябрамі Злучнасці не могуць быць вайскоўцы, супрацоўнікі пракуратуры і органаў унутраных спраў, сябры іншых палітычных партый.

### ☐ РАЁННЫЯ ЗВЕСТКІ

### ЗЯМЛЮ — ГАРАДЖАНАМ

АСЯ ТРАЦЮК.

**ДРУГІ год выканкам Маскоўскага райсавета народных дэпутатаў працуе над выдзяленнем зямельных участкаў для асоб ільготнай катэгорыі (раней гэтым займалася садова-агародніцкае таварыства пры Мінгарвыканкаме). Аб тым, хто ўваходзіць у катэгорыю льготнікаў і на якіх умовах размяркоўваецца зямля, карэспандэнту «ДВ» расказаў загадчык аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі, энергетыкі, транспарту і добраўпарадкавання Маскоўскага РВК Мікалай Адамавіч Свірыдзэнка:**

**— З лета 1992 года мы ўзялі на ўлік па забеспячэнню зямельнымі ўчасткамі 1300 грамадзян-ільготнікаў. Сюды ўваходзяць інваліды Вялікай Айчыннай вайны, інваліды аварыі на Чарнобыльскай АЭС, Савецкай Арміі, інваліды па агульнаму захворванню, воіны-інтэрнацыяналісты, ліквідатары-перасяленцы. У іх спісе таксама ўдзельнікі ВАВ, члены сем'яў загінуўшых, былыя вязні канцлагераў і ўдзельнікі блакады, пенсіянеры (у тым ліку Міністэрства абароны), шматдзетныя сем'і і інш.**

**Акрамя гэтых катэгорый асоб, згодна з пастановай Савета Міністраў, мы павінны задаволіць патрэбы яшчэ арганізацый і 1500 чалавек, якія стаяць на ўліку ў нашым выканкаме. Але іх фізічна не здолеем забяспечыць зямлёй, бо яе ў нас няма.**

**— А як удалося забяспечыць зямлёй ільготнікаў?**

**— За кошт участкаў, што засталіся пасля зносу спарахнелых дамоў, пры ачыстцы звалак, пустак і іншых земляў, якія патрабуюць апрацоўкі. Гэтым займаўся наш аддзел. Але нашых намаганняў, натуральна, недастаткова. Таму лічу, што вырашаць праблему неабходна разам з Саўмінам, Вярхоўным Саветам і Мінгарвыканкамам па пошуку зямель на прылягаючых да горада тэрыторыях і потым размяркоўваць іх сярод людзей. У выніку нашай працы, акрамя атрыманых васьмі гектараў зямлі калгаса імя Калініна Шчамысліцкага сельсавета Мінскага раёна, на сённяшні дзень удалося забяспечыць зямельнымі ўчасткамі 530 чалавек.**

● ФЕСТЫВАЛІ

## ЖАЎРАНКІ ЗЛЯТАЮЦЦА Ў МАЛАДЗЕЧНА

МАРГАРЫТА СТАРЫХ, «ДВ».

**У Маладзечна пачынаецца Фестываль беларускай песні і паэзіі.**

Але пралогам да яго, своеасаблівым камертонам стала свята ля помніка Максіму Багдановічу ў Мінску, дзе прагучала рок-опера «Максім» Ігара Паліводы на лібрэта Леаніда Пранчака. А на самім фестывалі ўсіх чакае знаёмства з новым творам гэтага кампазітара — вакальным цыклам «Беларушчына», напісаным ім на 12 апублікаваных вершаў класіка беларускай паэзіі Янкі Купалы.

Прысутнасць высокай паэзіі ў песні — гэта адзін з крытэрыяў першага Маладзечанскага фестывалю. А.Вялюгін, А.Грачаннікаў, А.Вярцінскі, Л.Дранько-Майсюк — гэтыя і іншыя імёны беларускіх паэтаў, на вершы якіх прагучаць песні — не маюць патрэбы ў прадстаўленні і гавораць самі за сябе. «Беларуская песенная спадчына», «Беларуская сучасная песня», «Песні народаў майго краю», праграма, у якую ўвойдуць творы ўсіх нацыянальнасцей, што пражываюць спрадвеку на беларускай зямлі, начныя канцэрты джазавай музыкі, беларускай бардаўскай песні, рок-музыкі, фальклорных ансамбляў і аркестраў — вось якая насычаная праграма трох дзён фестывалю.

А сёння ён пачынаецца вялікім гала-канцэртам, у якім прымаюць удзел вядомыя выканаўцы і калектывы. Свята беларускай песні будуць вітаць лаўрэаты іншых фестываляў — «Славянскага базару», «Голасу Азіі», юрмальскіх і ялцінскіх.

Усе канцэрты будуць трансліравацца ў прамым эфіры па Беларускаму радыё і тэлебачанню. Для фестывалю ў Маладзечна ў кароткі тэрмін на мясцовым стадыёне пабудавана цудоўная канцэртная пляцоўка, пастановачная група на чале з «маэстра святла і гуку» Уладзімірам Куставым у саматужных, дамарослых умовах зрабіла неверагоднае — сапраўдны «аркестр святла». Так што нас чакае да ўсяго маляўнічае відовішча.

Увогуле, арганізатары фестывалю рабілі ўсё, каб ён адразу выйшаў на міжнародныя параметры.

А галоўная задача, якую яны пры гэтым паставілі перад сабой — выявіць і вывесці да шырокай аўдыторыі не вядомыя да гэтага таленты як сярод выканаўцаў, так і кампазітараў, паэтаў; скласці аб'ектыўную карціну становішча на сённяшні дзень аднаго з папулярнейшых жанраў — песні. І разам з тым паказаць, што можна зрабіць пры жаданні ў невялікім горадзе.

У конкурснай праграме ўдзельнічаюць 18 выканаўцаў. Галоўны прыз — аўтамабіль «Жыгулі». Акрамя таго, 40 прызоў заахвочвальных — вельмі дэфіцытныя і патрэбныя рэчы.

Дарэчы, сярод прадпрымальнікаў, камерсантаў, якія пажадалі ўнесці свой уклад у фестываль, быў таксама наладжаны своеасаблівы конкурс на лепшы прыз.

Фестываль стартаваў — поспехаў яму!

Мы, гледачы і слухачы, не менш зацікаўлены ў тым, каб ён прайшоў цікава і на ўзроўні.

### КАЛЯНДАР

*ЧАЦВЕР, 3 ЧЭРВЕНЯ.*

*СОНЦА — 4.43/21.32.*

*Даўжыня дня — 16.50.*

*МЕСЯЦ — поўня 4 чэрвеня,*

*захад 3.30/усход 20.23.*

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя: Алены, Канстанціна, Міхаіла, Фёдара.*

*Каталіцкія: Кароля, Льва.*

**Заўтра:**

*Праваслаўныя: Васіліска.*

*Каталіцкія: Квірына, Францішка.*

**НАРОДНЫ КАЛЯНДАР:**

*Алена — дзень ільну, калі яго сёння пасеяць, то вырасце доўгі.*

● ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ

## В ПОЛЬШУ — ПО СТАРОМУ МАРШРУТУ

РУСЛАН ЩУЦКИЙ, БЕЛИНФОРМ.

**Практически всем людям свойственно спешить выдавать желаемое за действительное. Именно это произошло с корреспондентом БЕЛИНФОРМа, подготовившим информацию о порядке получения штампа «Гражданин Республики Беларусь» и вытекающих из этого последствиях. Чтобы исправить некорректную трактовку слов начальника ОВИРа Советского РОВД Григория Милевского, автор материала попросил его прокомментировать нововведение еще раз:**

**— Штамп «Гражданин Республики Беларусь» ставится в загранпаспорт при оформлении документов для очередной поездки за рубеж в районном ОВИРе по месту жительства при наличии в паспорте гражданина СССР республиканской прописки, полученной до 12 ноября 1991 года (момент принятия «Закона о гражданстве»). Мечты о льготном пересечении гражданами Беларуси границы с Польшей, как и с другими восточноевропейскими государствами, остаются только мечтами. О нововведениях говорится пока в будущем времени, они не имеют документального подтверждения. Для пересечения границы с Латвией необходим штамп о подтверждении белорусского гражданства, а также остальные документы для выезда за рубеж. Все вопросы о въезде в Латвию можно уточнить в посольстве, которое находится в номере 1907 минской гостиницы «Беларусь», или по телефону 39–16–12.**

### НЕБЛАГОПРИЯТНЫЕ ДНИ




● НОВОСТИ ЗДРАВООХРАНЕНИЯ

## СТРАХОВАЯ МЕДИЦИНА: ПЕРВЫЕ ШАГИ

ЛАРИСА КОКТЫШ, «ДВ».

Впервые — пожалуй, именно это слово определило атмосферу прошедшего в Минске республиканского симпозиума медиков по проблемам медицинской помощи детям с врожденной патологией челюстно-лицевой области. В народе наиболее частые из этих болезней называют «заячья губа» и «волчья пасть». Надо ли говорить, какое несчастье приходит в семью вместе с рождением такого ребенка!

В докладах приводились цифры: каждый год в республике рождается около тысячи детей с патологией, в том числе и с расщелиной губы и нёба. После чернобыльской аварии ситуация еще больше обострилась. Медики отмечали, что на фоне общего снижения рождаемости, увеличения количества преждевременных родов наметилась тенденция и к увеличению патологии среди новорожденных. А частота иммунодефицитных состояний теперь в 2-3 раза больше, нежели в дочернобыльские времена. Все это повышает вероятность ошибок природы.

Выправить же положение очень непросто. Многоэтапные операции, которые предстоят ребенку с раннего детства до юности, сложны сами по себе. К тому же такой ребенок все время нуждается в особой поддержке — моральной, педагогической, социальной. Без нее он не сможет адаптироваться в обществе.

Как уберечь мать и дитя от беды, как помочь, если она все же случилась? В сегодняшних условиях это вопрос еще и финансовый.

Экономическое положение республики вряд ли позволит в ближайшем будущем рассчитывать на создание специальных государственных финансируемых программ.

Вариант, предложенный АО «Белмедстрах», судя по выступлениям докладчиков, нашел поддержку у медиков. Страховая медицина — это та новинка, с которой предстоит людям еще знакомиться и привыкать к новой форме медицинской гарантированной помощи.

На симпозиуме выступили с докладами директор республиканского НИИ наследственных и врожденных заболеваний Т.И.Лазюк, директор НИИ охраны материнства и детства Минздрава Республики Беларусь А.К.Устинович, заведующий кафедрой стоматологии детского возраста МГМИ главный детский стоматолог Минздрава республики Э.М.Мельниченко и другие.

— Мы рассчитываем привлечь к сотрудничеству многих ведущих специалистов по врожденной патологии, причем, не только той, что обсуждалась на симпозиуме, ведь сегодня мы имеем и много другой, — сказал представитель АО «Медстрах» кандидат медицинских наук медэксперт С.Н.Суботько, — поэтому необходимо выработать единые подходы к проблеме и заложить начало большой работы на будущее. В перспективе мы планируем наладить дело так, чтоб подняться на уровень правительственных программ.

● ЕСТЬ ВОПРОС

### КТО КОГО ПОДВОДИТ?

АНАТОЛИЙ БЕЛОУС, «ДВ».

НОВЫЙ Дом печати сегодня, как встревоженный улей или небольшая Вавилонская башня. Что ни день — вселяются редакции, сотрудники перетаскивают свой нехитрый скарб. У нашего коллектива эти, пусть и обременительные, но приятные хлопоты позади. Словом, обживаемся, осваиваем новую телефонную связь, которая идет через местную подстанцию. Вроде все хорошо, но вот незадача, подключили к нам несколько телефонов с прямым выходом на город. И один из них, мы это сразу почувствовали, буквально раскалился. Тут и выяснилось, что это номер бывшего «горячего» телефона газеты «Советская Белоруссия». А надрываться телефонному аппарату было от чего — уже два дня как это популярное издание не поступает к своим читателям. По республике их насчитывается почти 680 тысяч. Естественно, многие беспокоятся... Прояснить ситуацию мы попросили исполняющего обязанности редактора «СБ», его первого заместителя А.Ф.Градюшко.

— Мы приносим свои извинения нашим верным поклонникам, — говорит Александр Федорович. — Газета будет выходить, но снова возникла загвоздка с бумагой. С перебоями, неритмично поступает она к нам из России. И хотя с поставщиками заключены долговременные договоры, никто сегодня не может ничего гарантировать. Такова ситуация в экономике. И, конечно, свято место пусто не бывает, мы получаем новые деловые предложения по бумаге, но по 320 тысяч рублей за тонну! Правда, в принципе, по нашим каналам этот вопрос уже решается. И на самом высоком уровне. Надеемся в четверг порадовать нашу преданную аудиторию. И, знаете, у популярности и соответственно большого тиража (а он у нас крупнейший в республике!) есть и свои издержки. Ежедневно это расход более 18 тонн дефицитной бумаги. К примеру, уважаемому «Добраму вечару» на номер требуется меньше тонны. Отсюда и все заботы. Особенно в нынешних условиях. Но будем надеяться на лучшее...

● ОПАСНЫЕ КАНИКУЛЫ

### «МАЛЬЧИК ГВОЗДЕМ КОВЫРЯЛ ВЗРЫВПАКЕТ...»

СЕРГЕЙ РАЧИЛА, пресс-центр УВД г.Минска.

НА ПРОШЛОЙ НЕДЕЛЕ в Минске произошло два несчастных случая, в результате которых пострадали дети. 25 мая в 20 часов 55 минут бригада скорой помощи доставила в больницу 10-летнего Николая Ванагеля с рваной раной подчелюстной области, проникающими ранениями гортани и трахеи. А на следующий день от дома 4 по переулку Корженевского "скорая" привезла в больницу девятиклассника Игоря Горшкова с четырьмя оторванными пальцами руки...

В первом случае мальчишка «играл» с бутылкой, заполненной смесью воды с карбидом. Во-втором — прямо в руке взорвался самодельный взрывпакет, который подросток мастерил тут же, у дома.

Видимо, остается воздать должное потусторонним силам и поблагодарить их за такие «счастливые» концовки детских игрищ. Возникает старый, но и поныне злободневный вопрос — куда смотрели родители? Разумеется, не думаю, что оптимальный выход — надолго (до совершеннолетия) «пристегнуть» ребенка к материнской юбке или отцовской руке. Но, согласитесь, даже в 10-летнем возрасте любой сорванец должен знать, как и чем порой заканчиваются подобные эксперименты...

27 мая в 10 часов утра сотрудники инспекции по делам несовершеннолетних Ленинского РОВД задержали шестиклассника средней школы 139 Ленинского РОНО Игоря Маркова, у которого обнаружили 10 боевых патронов к автомату Калашникова. Как выяснилось, эти предметы школьнику «презентовал» 19-летний военнослужащий срочной службы, который находился в увольнении. Откуда боеприпасы? Пояснил, что нашел на стрельбище своей в/ч.

Результат — быстрое обнаружение милицией этого отнюдь не детского арсенала предотвратило возможную трагедию. Что касается «щедрого» солдата — он сегодня пребывает за решеткой, и по этому факту возбуждено уголовное дело.

Уважаемые папы и мамы, не упускайте возможности лишний раз взглянуть, чем занимаются на улице ваши дети. И если в один прекрасный день вы увидите у них в руках невесть откуда взявшуюся гранату (не дай, как говорится, бог!) — значит, ваши разговоры с ними по этому поводу остались пустым звуком...

### Гарачы тэлефон

**Шмат тэлефонных запытаў было наконт публікацыі праграмы перадач на тыдзень тэлебачання г.Санкт-Пецярбурга.**

Сапраўды, прапанова слушная, бо ўсё больш мінчан глядзяць Санкт-Пецярбургскі канал. Мы гэта ўлічылі, і ўжо ў бліжэйшую пятніцу, калі звычайна друкуецца тэлевізійны расклад на наступны тыдзень, знойдзецца месца і для тэлебачання «Паўночнай Пальміры».

**Некалькі чалавек званілі з нагоды маючага адбыцца ў ліпені З'езда беларусаў свету, прасілі паведаміць тэлефон арганізатараў або куды пералічыць сродкі на правядзенне гэтага мерапрыемства.**

Можам падказаць вам, што ўсе даведкі вы можаце атрымаць у Ганны Іванаўны Сурмач, якая непасрэдна каардынуе гэтую справу. Трэба толькі тэлефанаваць па нумары — 27-25-83.

**І апошняе. Заўтра заканчваецца падпіска на перыядычныя выданні на бліжэйшыя паўгода. У тым ліку і на «Добры вечар». Але, калі да закрыцця паштовых аддзяленняў яшчэ ёсць час, не страцьце гэтую апошнюю магчымасць.**






## «МЕСЯЦ ЧИСТОГО ВОЗДУХА»

АНАТОЛИЙ БЕЛОУС, «ДВ».

У КОГО как, а у столичного ГАИ свое летосчисление. Что ни месяц — то месячник. Вот и июнь объявлен «Месяцем чистого воздуха». Под таким условным названием в городе будут проведены соответствующие мероприятия. Кстати, это уже стало доброй традицией. И с каждым разом эффективность акции, пусть ненамного, но возрастает. Только за прошлый месячник в столице досмотрено более 28 тысяч автомобилей. За повышенную токсичность отработавших газов тогда поплатилось более двух тысяч водителей и более 60 должностных лиц. Цифры впечатляющие, если учесть, что всего по дорогам столицы куролесит около 170 тысяч государственных и частных автомобилей.

— Совместно с нашими инспекторами в операции будут участвовать представители госинспекции по охране атмосферного воздуха и работники горСЭС, — **рассказывает заместитель начальника ГАИ УВД горисполкома П.П.Жихарев.** — Для проверки токсичности отработавших газов мы намерены создать 6 стационарных и два передвижных поста. В случае нарушений будут приниматься меры по запрещению эксплуатации такого транспорта. В копеечку влетит отступление от норм и владельцам автотранспортных средств. Это далеко не весь перечень намеченных мероприятий. Так, по отдельному плану будет проведена проверка состояния работы на автотранспортных предприятиях и станциях технического обслуживания по снижению загрязнения воздуха выхлопными газами. Проведем выборочные проверки отремонтированных автомобилей на соответствие требованиям стандарта.

По меньшей мере мы планируем проверить около половины всех автотранспортных предприятий города. Но и это не все. Ведь не секрет, что многие автомобили хранятся не по месту своей регистрации. Сколько их днюет и ночует просто под окнами жилых домов. Потому и здесь мы пытаемся навести порядок. Меры к нарушителям будут применяться довольно жесткие. И еще вот что — если кто-то «проскочит» на этот раз, пусть не радуется. Вполне вероятно, что наш месячник может быть продлен.

● МІНГАРСАВЕТ: БУДНІ

МАКСІМ ГРЭК, «ДВ».

*У адным з рэпартажаў з сесіі мы ўспаміналі пра надзвычай важнае рашэнне, якое прынялі нашыя дэпутаты ў рамках дадатковых мер па выкананню Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб захаванні і развіцці сеткі дзіцячых дашкольных устаноў». Але пытанне гэтае настолькі актуальнае і настолькі кардынальна мяняе сітуацыю ў горадзе, што мы палічылі патрэбным больш падрабязна пазнаёміць з ім нашых чытачоў.*

### НЕКАЛЬКІ ЛІЧБАЎ

У Мінску сёння працуюць 544 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, якія наведваюць 95600 дзяцей. З агульнага ліку толькі 232 садкі належаць райаддзелам народнай адукацыі, а 312 — у ведамасным падпарадкаванні.

86 прадпрыемстваў горада ўтрымліваюць дзіцячыя садкі, у той час як 11819 прадпрыемстваў і арганізацый уносяць грошы ў пазабюджэтны фонд на гэтыя дашкольныя ўстановы.

Эканамічныя праблемы прадпрыемстваў прыводзяць да таго, што ведамасныя садкі фінансуюцца па рэштаткаваму прынцыпу. Больш таго, некаторыя арганізацыі наогул не ў стане ўтрымліваць дзіцячыя ўстановы, што прывяло да скарачэння іх сеткі на 20 адзінак.

Варта, бадай, адзначыць, што пляжыцца і сама ідэя існавання дзіцячага садка, які павінен дапамагчы бацькам у выхаванні дзіцяці, пакуль тыя на рабоце. Прычым дапамагчы так, каб нашыя дзеці адчувалі сябе камфортна, спакойна, каб ім там было ўтульна і цікава.

А што адбываецца? Працоўны тыдзень у многіх ведамасных установах скарачаецца да 4-х дзён, а сама працягласць работы да 10,5 гадзін замест патрабуемых 12-ці.

Нават цяпер, пасля прыняцця адпаведнай Пастановы Вярхоўнага Савета, робяцца спробы закрыцця садка № 189, які пасля капітальнага рамонту пераабсталяваны пад санаторны. Дзіўна — ніхто не будзе спрачацца з тым, што стан здароўя нашых дзяцей вымагае самага пільнага клопату пра такія садкі, але дагэтуль шматлікія інстанцыі разбіраюцца з гэткай элементарна простай сітуацыяй.

Між іншым, калі ў 1990 годзе ў Мінску было 139 санаторных груп і 18 санаторных дзіцячых устаноў, то сёння падобныя групы існуюць толькі ў 6-ці яслях-садках, а санаторных устаноў засталося ўсяго 4.

### А ГРОШЫ Ж ЁСЦЬ!

Было б зразумела, хоць і не апраўдана, падобнае становішча з нашымі дзіцячымі садкамі, каб поўнасцю адсутнічалі фінансы на іх падтрымку. Але ж на 1 красавіка 1993 года на рахунку пазабюджэтнага ведамаснага фонду на ўтрыманне пазашкольных устаноў знаходзілася 1 мільярд 304 мільёны рублёў! Гэтыя грошы не выкарыстоўваюцца з-за недасканалага механізма размеркавання сродкаў міжведамаснымі і муніцыпальнымі ўстановамі.

Між іншым, нарматыў грашовага ўтрымання аднаго дзіцяці ў сакавіку 1993 года склаў 9800 рублёў. Нам здаецца, чытачам будзе цікава даведацца, колькі ж грошай рэальна было выдаткавана на нашых дзяцей у ведамасных дзіцячых садках у тым месяцы.

Аўтар гэтых радкоў сам трапіў у вясёленькую і вельмі тыповую сітуацыю. Чатыры садкі, якія размешчаны вакол майго дома, на жаль, маюць ведамаснае падпарадкаванне. А па прычыне таго, што газеце «Добры вечар» да свайго садка не дажыць да скону дзён, у раёна мне прапанавалі бюджэтны садок... за некалькі кіламетраў ад хаты. У некага, мабыць, знойдзецца жаданне раніцай і вечарам штодзённа матляцца ў перапоўненых тралейбусах-аўтобусах туды-сюды. Знайшлося б яно і ў мяне. Але калі жонка ў чарзе ў раёна пачула пра тое, што садкі гэтыя бяднейшыя за царкоўнага пацука, і нават гаршчок туды пажадала аднесці свой, яна жаласлівым тонам папрасілася яшчэ хоць трошкі пасядзець дома з сынам на правах хатняй гаспадыні. Сэрца маё не камень...

## БАЦЬКАМ І ДЗЕЦЯМ

*Рашэнне апошняй сесіі Мінгарсавета павінна значна аблегчыць сітуацыю з дзіцячымі садкамі*

У Ленінскім раёне на аднаго дзіця прыйшлося 6147 рублёў, у Маскоўскім — 7071, Кастрычніцкім — 6423, Партызанскім — 7285, Першамайскім — 5755, Савецкім — 6846, Фрунзенскім — 7033, Цэнтральным — 7901, Заводскім — 6824. І гэта, нагадаю, пры нарматыве 9800 рублёў!

За квартал, словам, на нашых дзетках зэканомілі 38 мільёнаў 630 тысяч рублёў.

### БАЦЬКОЎСКІЯ ПАКУТЫ

Размежаванне дзіцячых дашкольных устаноў на ведамасныя і муніцыпальныя выклікае ў гараджан немалы галаўны боль. Добра, вядома, калі побач з домам — садок твайго прадпрыемства. У адваротным выпадку пабегаць давядзецца нямала.

### СЕСІЯ ПРЫНЯЛА РАШЭННЕ

Прааналізаваўшы сітуацыю ў горадзе, камісія гарсавета па адукацыі і выхаванню, якую ўзначальвае Вольга Кузьміч, сумесна з гарадскім упраўленнем адукацыі распрацавала праект пастановы, якая аднагалосна была прынята на XII сесіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Прыемна, між іншым, што клопат пра дзяцей практычна заўсёды выклікае адзінадушную падтрымку нашага не надта кансенсуснага гарадскога парламента.

Што ж прадугледжваецца пастановай?

Прапанавана кіраўніцтву прадпрыемстваў, якія маюць ведамасныя садкі, ліквідаваць ведамасныя чэргі. Адначасова райвыканкамам даручаецца ўстанавіць адзіныя чэргі па ўладкаванню дзяцей у дашкольныя ўстановы незалежна ад ведамаснага падпарадкавання.

Выканкаму гарсавета дазволена скарыстоўваць сродкі з пазабюджэтнага фонду на ўтрыманне садкоў незалежна ад іх падпарадкавання. Да 1-га чэрвеня механізм размеркавання павінен быць распрацаваны.

Звернута ўвага на недапушчальнасць змянення ўстаноўленага рэжыму работы дашкольных дзіцячых садкоў, калі іншага не патрабуюць бацькі, без узгаднення з органамі народнай адукацыі.

### НАВОШТА Ж УСЁ ГЭТА ТРЭБА?

Адказ быў выдатна сфармуляваны ў выступленні Вольгі Кузьміч на сесіі падчас абгрунтавання праекта пастановы. Ёй слова і дадзім: «Дык чаму ўносіцца прапанова аб адзінай чарзе ў горадзе? Перш-наперш, гэта выгадна і зручна для бацькоў і дзяцей: садок па месцы жыхарства.

Па-другое, лёс ведамасных садкоў не павінен выпадаць з поля зроку раённых Саветаў (на тое яны і ўлада, каб ведаць і кантраляваць, што робіцца на месцах!).

Трэцяе — спрошчваецца механізм атрымання пуцёвак у садкі. Ён цяпер будзе абсалютна безвалакітны.

Чацвёртае, бацькі будуць мець права выбару садкоў, а тыя, у сваю чаргу, будуць ствараць адпаведныя ўмовы ўтрымання, гэтым самым узды маючы прэстыж дзіцячых пазашкольных устаноў».

Будзем таксама спадзявацца, што пастанова па скарыстанню пазабюджэтных сродкаў на садкі незалежна ад іх падпарадкавання значна палепшыць матэрыяльны стан гэтых устаноў. У дакладзе Вольгі Аляксандраўны, напрыклад, прыводзіліся жахлівыя факты. Яслі-сад № 112 Мінскага завода халадзільнікаў на працягу 20 гадоў не быў на капітальным рамонце. Вельмі марудна рамантуецца яслі-сад № 60 фабрыкі імя Куйбышава. У садка № 149 вялікія цяжкасці з сантэхнічным абсталяваннем: на 20-25 дзетак прыходзіцца адзін унітаз і два ўмывальнікі. У д/с № 182 (на бюджэце Ленінскага раёна) замест цацак — каробкі ад шампуню, бутэлькі з-пад дэзадарантаў.

Гэтай жа пастановай, між іншым, камітэту гарвыканкама па забеспячэнню харчаваннем, таварамі народнага спажывання, паслугамі і арганізацыі гандлю даручана прыняць канкрэтныя захады па аператыўнаму і поўнаму забеспячэнню заявак дзіцячых дашкольных устаноў.

### ...І ТРОШКІ ЛІРЫКІ

Што ж, пастанова прынята і ўвайшла ў дзеянне. З-за недахопу часу я яшчэ не паспеў зайсці ў раёна, каб пацікавіцца новымі прапановамі па свабодных месцах у садках вакол майго дома. Спадзяюся, што стварэнне адзіных чэргаў не зойме шмат часу, і ўжо ў гэтым годзе мой сын адправіцца ў садок непадалёк ад дома, а жонка — на работу. Спадзяюся, што ні гаршка, ні кубка, ні лыжкі, ні цацкі цягнуць з сабой у садок кожную раніцу не давядзецца. Спадзяюся, што сына будуць даглядаць уважлівыя выхавацелькі, карміць экалагічна чыстымі прадуктамі, а бялізну мяняць ва ўстаноўлены тэрмін, а не па жаданню і магчымасцях адміністрацыі. Спадзяюся, што ўзрастаючыя клопаты пра растучых дзяцей мяне асабіста будуць тычыцца выключна ў плане маральнага выхавання і адукацыі сына, а не ў частцы вялікіх турбот па забеспячэнню чалавечых умоў існавання ва ўстанове, якая па іроніі лёсу завецца «дзіцячым садком».

І не можа ж быць, каб мае спадзяванні не спраўдзіліся — недарэмна ж гарадская ўлада прыняла такое добрае, актуальнае і патрэбнае людзям рашэнне.

● АКТУАЛЬНОЕ ИНТЕРВЬЮ

# О КОТТЕДЖАХ, «ХРУЩЕВКАХ» И МНОГОМ ДРУГОМ

ОЛЬГА ЖАРИНА.

**Жилье и работа — два основных условия нормальной жизни человека, две главные ее составляющие. К сожалению, для многих обе они становятся и основными жизненными проблемами. С жильем у нас всегда было туго, одно дело написать директиву «до 2000 года обеспечить каждую семью отдельной квартирой», другое — осуществить ее на деле. Сейчас с этим еще тяжелее, как и с «всеобщей занятостью населения». И все же какие перспективы у минчан получить свою заветную квартиру? Да не какую-нибудь — время «хрущевок» уже прошло, а комфортабельную и в симпатичном районе, где уже есть все необходимое: поликлиника, детский сад, магазин, служба быта и т.д.**

**Об этом шла речь на пресс-конференции начальника Главминскархитектуры Я.Л.ЛИНЕВИЧА. Именно его управление проектирует все застройки в Минске, создает архитектурный облик города.**

Сейчас Главминскархитектура работает над генеральным планом территориального развития города до 2000 года, определяются новые границы Минска, районы индивидуальной жилищной застройки.

— Вы знаете, что с 60-х годов в столице было запрещено строительство индивидуальных домов, — говорит Ярослав Львович Линевич, — теперь ситуация изменилась и в новый генеральный план застройки мы закладываем 15% коттеджей. Часть из них будет в городе, в новых микрорайонах «Лошица», «Лебяжий», «Каменная Горка» (это продолжение «Кунцевщины»), в районе ул.Филимонова. Мы также собираемся посмотреть частный сектор, там есть пустые места, которые можно отдать под коттеджи. Рассматриваем и 3 площадки за городом: вероятно, появится вторая очередь индивидуального жилья в Механовичах и еще в двух поселках по могилевскому направлению. На наш взгляд, из 23 деревень, находящихся в пределах кольцевой дороги, примерно 15 можно благоустроить и дополнить коттеджами. Таким образом появится еще 1700-2000 домов.

**— Ярослав Львович, вы упомянули частный сектор Минска. Его жителей всегда волновало, сколько будут существовать их дома. Судя по тому, что планируется застроить пустые участки, речь о сносе уже не идет?**

— Буквально на днях решится вопрос о том, чтобы эти районы вообще не подлежали сносу, а людям позволили реконструировать свое жилье. Дома могут убрать, только если в этом месте будет проходить дорога.

**— Кроме коттеджей в городе строится обычное жилье. Какие новые микрорайоны появятся в ближайшие годы?**

— Прежде чем приступить к строительству жилья, в эти районы надо провести инженерные коммуникации: тепло, воду, газ, свет и т.д. А с этим дело движется медленно. Большое отставание идет по очистным сооружениям , теплу. Мы рассчитывали на атомную электростанцию под Минском, но ее нет, и приходится открывать новые котельни, на это надо время. Поэтому строительство уже запроектированных районов часто откладывается. Такая ситуация, например, с «Новинками». Так что новых микрорайонов будет немного: «Красный Бор», уже упомянутые «Лошица», «Каменная Горка», продолжим застройку «Запада», «Юго-Запада».

**— А как же расширение границ города?**

— Все упирается в землю, которую не дают райсоветы. Минску до 2000 года надо 9 тысяч гектаров, причем мы забирали бы их постепенно, пашня из севооборота не выходила бы. Пытаемся идти на компромиссы с хозяйствами, просим хотя бы не застраивать эти участки, но ... пока вопрос не сдвигается.

Правда, есть и в нынешних границах Минска места, где можно 10-15 лет вести строительство жилья и не «выбивать» земли за городом, однако здесь свои трудности. Например, на территории аэропорта «Минск-1» разместился бы микрорайон, равный «Серебрянке». Для этого надо убрать взлетную полосу, изменить профиль 407 завода. Но аэропорт продолжает функционировать, хотя давно говорится о его вынесении. Мы хотим хотя бы в 1996 году начать проектирование этого района, конечно, если прекратятся полеты.

Второй такой участок — аэродром ОСТО в Боровой, где мы планируем проектировать «Восток-3». Была договоренность с военным ведомством, что эти земли забирает город, а ОСТО станет использовать взлетную полосу под Молодечно. Но райцентр отказался, хотя у них это место превратилось в пастбище для коров, город мог безболезненно его отдать. Еще одно место для возможной застройки тоже пока занимают военные.

**— Ярослав Львович, наши новые микрорайоны минчане не случайно называют «спальными»: вместе с жильем вводится первый магазин, детсад и школа, а строительство других объектов соцкультбыта растягивается на многие годы. Можно ли как-то изменить эту практику?**

— И растягивается надолго, и все равно их слишком мало. В районах по плану всего 5-6% объектов соцкультбыта, а надо бы не менее 20% и строить все параллельно с жильем, вложив дополнительные инвестиции. Но тогда, конечно, будет вводиться меньше квартир, зато исчезнет вечная стройка и жалобы людей, которые ходят в поликлинику в соседний микрорайон. Другого пути я не вижу. Но жилищную политику определяем уже не мы.

**— Наши типовые дома вряд ли назовешь образцом привлекательного, очень комфортного жилья. Работает ли Главминскархитектура над совершенствованием их внешнего облика и внутреннего устройства?**

— Мы сейчас идем на снижение этажности застройки до 2 — 4 этажей. Это не значит, что высотных домов не будет, но такая тенденция повлияет на вид жилых массивов.

Совершенствуется индустриальное домостроение. Наши специалисты ведут разработки крупнопанельных домов, под которыми будут размещаться гаражи.

К сожалению, не все наши усилия завершаются успешно. Много лет ушло на разработку базисной серии жилья с «гибкими» квартирами, в которых по своему вкусу можно было менять внутреннее пространство, например, совмещать кухню с комнатой-столовой и т.д. Но пришлось похоронить эту работу, потому что воплотить ее в жизнь сейчас стало невозможно.

**— И последний вопрос. Что будет с «хрущевками»? Какие выводы можно делать после первых и, кажется, удачных проб их реконструкции?**

— Если реконструировать «хрущевки», то не по одному дому, а комплексно, целый квартал или микрорайон. Но тогда надо отселять людей, а это уже проблема, и как она решится, не знаю.

А первый реконструированный дом по ул.Осипенко, по-моему, удался. Правда, обошелся он почти как новый (97% к новому строительству). Говорят, что в будущем расходы могут снизиться до 70%. Так что есть смысл этим заниматься. На Западе, например, вообще больше реконструируют, чем строят новое жилье.

### ЖЕНЩИНЫ И... БЕЗРАБОТИЦА

**Незавидную долю безработного разделяют сегодня в республике почти 53 тысячи человек. Об этом корреспонденту БЕЛИНФОРМа сообщили в Государственном комитете Республики Беларусь по статистике и анализу.**

**Более 80 процентов из них составляют женщины. 16 тысяч представительниц прекрасного пола были высвобождены при ликвидации предприятий или попали под сокращение. 3,5 тысячи — выпускницы ВУЗов, средних учебных заведений и школ, которым так и не удалось испытать радостей первого трудового дня. Более 11 тысяч работниц уволились по собственному желанию, а нового места работы найти не смогли.**

**Сегодня в очереди за получением пособия по безработице насчитывается 21т. 200 женщин. Если по отношению к женщине действительно определяется цивилизованность общества, то дела у нас, к сожалению, пока далеки от совершенства.**

### ...И БИЗНЕС

**Все большее количество женщин покидают предприятия государственной формы собственности и уходят трудиться в кооперативы, малые предприятия и общества с ограниченной ответственностью.**

**На предприятиях малого и среднего бизнеса республики работает сегодня около 40 тысяч женщин. Это 2 процента от их общей численности, занятой в экономике. Если в минувшем году женщины на этих предприятиях составляли только пятую часть, то в нынешнем — каждый третий «бизнесмен» женщина.**

**БЕЛИНФОРМ.**

● ФОТАРЭПАРТАЖ

## У НІЖНЮЮ САКСОНІЮ — СА СВАІМІ ПЕСНЯМІ

ЯЎГЕН КОКТЫШ.

*З ПОСПЕХАМ прайшлі Дні беларускай культуры ў нямецкіх гарадах Клапэнбургу, Дэльменхорсце, Бургведэле, Цэле, арганізаваныя фондам «Дзецям Чарнобыля» і мясцовымі чарнобыльскімі ініцыятывамі, якія супрацоўнічаюць з гэтым фондам. Такія дні культуры праводзіліся ў гэтых гарадах Ніжняй Саксоніі ўпершыню, таму цікавасць да нашых артыстаў была зразумелая.*

*Зачараванне — гэтым адным словам можна перадаць уражанне ад выступленняў вакальнага ансамбля «Чысты голас». Вялікі прафесіяналізм, культура выканання, цудоўны рэпертуар — усё гэта высока ацанілі нямецкія гледачы. Выступленні фальклорнага ансамбля «Медуніца» з першых жа песень выклікалі літаральна захапленне, а потым беларуская песня «Карагод» сабрала ў агульны карагод усіх — і нямецкіх гледачоў, і беларускіх артыстаў.*

*Дні беларускай культуры ў гэтых мясцінах Ніжняй Саксоніі праходзілі пры садзейнічанні ніжнесаксонскага ўрада і міністэрства па справах культуры і еўрапейскіх пытаннях. На канцэрты беларускіх артыстаў спецыяльна прыязджала жонка прэм'ер-міністра Ніжняй Саксоніі, старшыня ніжнесаксонскага фонду «Дзеці Чарнобыля» спадарыня Шродэр.*

*Ва ўсіх гарадах нашых майстроў культуры шчыра прымалі прадстаўнікі мясцовых чарнобыльскіх ініцыятыў.*

*Гэткія дні павінны праводзіцца абавязкова хоць бы раз у два гады — да такога вываду прыйшлі арганізатары свята беларускай культуры ў Ніжняй Саксоніі, бо знаёмства з культурамі адзін аднаго лепей за ўсё зблiжае людзей.*

*У гэтым годзе летам у Ніжнюю Саксонію прыедуць на адпачынак і аздараўленне 2500 чарнобыльскіх дзяцей.*

**НА ЗДЫМКАХ: спяваюць «Чысты голас», «Медуніца»; сустрэчы на нямецкай зямлі з пастарам Махлевайнам з Бургведэле.**

● ПО РЕСПУБЛИКЕ БЕЛАРУСЬ

### Горецкая «TERRA» становится международной

**В Горках прошла сельскохозяйственная ярмарка «TERRA-93». На ней были представлены товары четырех республик: Украины, России, Беларуси и Латвии. Был задействован практически весь агропромышленный комплекс Беларуси. Выставлялись изделия таких крупнейших заводов, как Гомсельмаш, Лидасельмаш, Бобруйскагромаш. В ходе «TERRA» большой успех имели Гомсельмаш и Черкасский «АНПО ТЕМП», который специализируется на выпуске мини-заводов по переработке сельскохозяйственной продукции. С этими предприятиями уже в первые дни ярмарки заказчики заключили не одну сделку. Теперь устроители ярмарки решили сделать ее проведение традиционным. Планируется сделать ее крупнейшей выставкой уровня не только СНГ, но и всего западного региона с привлечением крупнейших европейских агрофирм.**

### ЧАЭС намерены закрыть к новому году

**В Бресте прошло очередное, пятое по счету, совещание Электроэнергетического совета СНГ. Вопреки суверенным устремлениям республик у энергетиков налицо попытка объединиться. На эту встречу прибыл также представитель Латвии.**

**На встрече приняты единые принципы совместной работы энергетических систем. Интерес представляет заверение представителя Украины, еще раз подтвердившего намерение своей страны закрыть к новому году Чернобыльскую АЭС.**

### Цехи заключат договоры

**С 1 июля многие цеха Витебского завода радиодеталей станут работать в режиме экономически самостоятельных производств. Эти обособленные производства будут сами планировать выпуск и сбыт своей продукции, заключать новые договоры и решать свои финансовые проблемы.**

### «Бабочка» полетит в Австрию

**Созданный три года назад при Гродненском татарском культурном центре фольклорный ансамбль «Бабочка» постепенно выходит на международную арену. Недавно на адрес его создателей поступило приглашение на фестиваль самодеятельных и национальных ансамблей, который пройдет в Австрии. Пригласила «Бабочку» Международная организация по народному творчеству ЮНЕСКО.**

### Маслодельный комбинат балует новогрудчан

**Сливочно-белковая паста с цикорием или с чесноком. Что это такое, вкусно ли? На этот вопрос могут ответить новогрудчане. Потому что именно в магазинах их города появился этот новый молочный продукт.**

**Выпускается паста на местном маслодельном комбинате, продукция которого даже в сегодняшнее время отличается высоким качеством и разнообразием ассортимента. Расфасована она в 100-граммовые полиэтиленовые стаканчики, что очень удобно для потребителей. Не слишком высока и цена — паста с цикорием стоит 50 рублей, с чесноком — 54 рубля.**

**По данным РИД.**

● ЗНАКОМЫЕ ИМЕНА

# «VITA NOVA» СТРЕМИТСЯ ПОКОРИТЬ ДОРТМУНД

ОЛЬГА ЖАРИНА.

*С художественной галереей «VITA NOVA» читатели «ДВ» уже знакомы. Возможно, скоро о ней узнают и жители города Дортмунда. Причем, речь идет не о какой-то разовой выставке, а о постоянной «прописке» галереи в Германии.*

23 августа в Дортмунде открывается Белорусский дом искусства, науки и политологии, который сможет знакомить жителей города с творческими коллективами, научными, политическими деятелями Беларуси. Этот культурный центр включает в себя выставочный, несколько зрительных залов, ресторан со сценой. «VITA NOVA» получает зал, где сможет ежемесячно открывать новые выставки.

**— Значит ли это, что Минск вас потеряет? — спросили мы у художественного руководителя галереи Николая ХАЛЕЗИНА.**

— Нет, нет, мы будем работать и здесь, и там, но сейчас встал вопрос с помещением, потому что из нынешнего уже выросли, и вообще фойе театра — не лучшее место для нас.

До сих пор мы открывали свои выставки на Класс-клубе, куда попадала лишь определенная публика. Многие же люди не могли увидеть работы, потому что в театр в любое время не зайдешь, здесь свой режим. Так мы теряли своего зрителя, своих единомышленников. Сейчас решили исправить эту ошибку, поэтому ищем другое помещение: ведем переговоры с Дворцом искусств, думаем над иными вариантами. Надеемся в новом сезоне справить новоселье.

А пока в Альтернативном театре проходит выставка Владимира Синельникова и Вячеслава Игнатенко «Реставрация пилотируемых». Этих художников уже знают, но галерея открыла их в новом качестве. Нынешние работы интересны тем, что авторы берут самолет как эстетический объект и на его основании создают некий образ времени 30-50 годов. Причем один художник пишет очень фигуративно, конкретно, другой — свободно, формально. В результате рождается интересный альянс.

Есть у «VITA NOVA» и другие новости. Недавно Николай Халезин и Василий Шугалей участвовали в выставке, проходившей в Москве в Центре современного искусства. Наши художники представили проект «Отлаженная машина», который отражает весьма актуальную проблему: деньги в искусстве и искусство в деньгах. Работа белорусских художников имела резонанс.

И еще одно событие произошло в галерее. «VITA NOVA» в полном составе вступила в Радикальную партию, которая базируется в Италии и имеет представителей в Беларуси. Это скорее даже не партия, а своеобразное движение людей, объединенных гуманными целями и задачами. Например, один из программных вопросов — борьба за отмену смертной казни. По словам работников галереи, их волнует политика, то, что происходит в нашем обществе. Им есть что сказать по этому поводу, и пропагандировать свои взгляды ребята намерены через Радикальную партию. Ну, а что из этого получится, я думаю, мы еще узнаем. Как, надеюсь, и попадем в скором будущем на новоселье галереи.

